Серада
20 верасня 2006 г.
№ 10 (18)
наклад 299 ас.
Рэдактар: Ігар Шчэкарэвіч

МП свой горад сваімі рукамі

ПРАЎДА мастоўская



# Думаеш у разрэз з генеральнай лініяй? Вон з працы!

**У нумары 64 (7845) раённай газеты "Зара над Нёманам" за 24 жніўня 2005 года ў матэр'яле "Наша мэта выпрацаваць аптымальную стратэгію развіцця мастоўскай школы" начальнік аддзела адукацыі Валянцін Сцяпанавіч Ціхановіч пералічыў тых супрацоўнікаў устаноў дашкольная адукацыі якія працуюць якасна, творча і упэўнена. У шэрагу гэтых таленавітых і сумленных людзей была пералічана і лагапед дзіцячага садка № 6 Вікторыя Пятроўна Салей.Прайшло небольш як 7 месяцаў пасля публікацыі ў "Зары над Нёманам" і Вікторыю звольнілі з працы.**

Выкінулі на вуліцу быццам бы па уласнаму жаданню. На самой справе Вікторыя Салей проста думала інакш, мела свой уласны погляд на развіццё і будучыню горада. Была актыўным чалавекам і на працы, і ў грамадзкім жыцці горада. Неаднаразова назірала за выбарамі ў Мастах, ды і увогуле выступала за праўду і справядлівасць. Выхаванне такое ў дзяўчыны. Пазбавіўшы спадарыню Салей без працы і сродкаў на існаванне, рэпрэсіўная машына не спынілась. Гэтага камусці было мала! Аддзел па грамадзянству і міграцыі Мастоўскага РАУС на працягу 2-ух месяцаў адмаўляў спадарыні Салей у дазвольным штампе для выезду ва ўсе краіны свету. Адмаўлялі, не тлумачыўшы прычыны. Справа вырашылася толькі пасля скаргі на супрацоўніцу АпГМ Мастоўскага РАУС у пракуратуру.

Атрымоўваецца, што Канстытуцыя Беларусі гарантуе права кожнага грамадзяніна для выезду куды заўгодна, там жа, ў асноўным законе, запісана што кожны мае права свабодна выказваць свае думкі і прытрымлівацца розных палітычных поглядаў. А прафессіянала ў сваёй галіне выкінулі з працы толькі за тое, што дзяўчына не прытрымлівалася генеральнай лініі. Вось вам і адданасць прафесіі. Атрымоўваецца, што галоўнае ў нашай дзяржаве не высоўвацца! Прафессіяналізм і веды, зусім не галоўнае! Толькі шкада, што губляем моладзь. Моладзь, якая яшчэ хоча працаваць у Мастах. Большасць ужо не хоча. Хто ў Пецярбургу, хто ў Маскве, хто ў Амерыцы ці Англіі. А дзе ж тут заробішь добрыя грошы? ...

*Ігар Шчэкарэвіч*



**Вікторыя Салей**

## Акцыя супраць прымусовай падпіскі на «Советскую Белоруссию»

**Сацыял-дэмакраты Аляксей Сабасцян і Язэп Палубятка правялі ў г. Масты акцыю пратэсту супраць прымусовай падпіскі насельніцтва на газету "Советская Беларусь".**

6 верасня ў адным з паштовых аддзяленняў горада павінна была адбыцца сустрэча падпісчыкаў з супрацоўнікамі рэдакцыі. Каб завабіць патэнцыйных падпісчыкаў, тут жа павінен быў адбыцца розыгрыш прызу — мабільнага тэлефона. У назначаны час сюды прыйшло каля дзесятка пенсіянераў, у тым ліку былы пракурор раёна і былы другі сакратар райкаму кампартыі. Яны таксама мелі намер паўдзельнічаць у розыгрышы. Па службовых абавязках сюды з'явілася пяць супрацоўнікаў райвыканкаму, начале з кіраўніком ідэалагічнага аддзела. Прысутнічала каля дзесятка кіраўнікоў гарадскіх арганізацый. Здавалася, што праводзіць нейкую акцыю сярод тых, хто не чытае ніякай прэсы, акрамя "СБ", і тых, хто прымушае сваіх падначаленых падпісвацца на яе, не мае сэнсу. Аднак яна адбылася.




Напачатку Язэп Палубятка, апрануты ў чырвоную майку з выявай палітвязня Александра Казуліна, распавёў прысутным пра заганны стыль артыкулаў газеты і прымусовыя метады падпіскі на яе. Затым звярнуўся да супрацоўнікаў рэдакцыі з запытаннем: "Дзе матэрыялы пра Аляксандра Казуліна?" Пасля чаго ён паказваў першую старонку "СБ" прысутным, ірваў яе і кідаў на падлогу. Паспрабавалі спыніць акцыю пратэсту начальнік раённага аддзялення "Белпошта" і начальнік штабу РАУС, які таксама прыйшоў сюды, каб займець мабільны тэлефон. Аднак спробы былі безвыніковыя. Пасля таго, як былі знішчаны набытыя ў шапіку экзапляры "СБ", прысутным былі раздадзены календарыкі з партрэтам Казуліна. Пасля чаго Палубятка разарваў некалькі рэкламных экзэмляраў газеты, прывезеных сюды супрацоўнікамі рэдакцыі, і шматкі кінуў у сметніцу.

Арганізатарам імпрэзы давялося выклікаць нарад міліцыі, і толькі пасля таго, як прыехалі ахоўнікі "парадку", пратэстанты пакінулі памяшканне. Міліцыя не праводзіла затрымання, а дала магчымасць ім спакойна сысці.

*Крыніца: www.charter97.org*

## Апытанне МП

Усё больш і больш спутнікавых антэнаў пачало з'яўляцца на балконах і дахах дамоў іквгатэраў мастаўчан. У сваім чарговым апытанні мы вырашылі задаць жыхарам горада наступныя пытанні:

*Ці маеце вы спутнікавую антэну? Калі так, то які з каналаў больш за ўсё глядзіце?*

**Іван Фёдаравіч, 47 год:** У мяне няма. Я ОНТ і БТ гляджу.

**Віктар, 21 год:** Ёсць такая антэна. Гляджу MTV у асноўным.

**Таццяна, 28 гадоў:** Так. Я гляджу расійскія „НТВ і ОРТ ".

**Міхаіл, 36 гадоў:** Антэну маю. Гляджу еўранавіны.

**Жанна, 43 гады:** Не.

**Людміла, 56 гадоў:** Маю. Вельмі люблю серыялы, таму гляджу "ОНТ", "РТР", "НТВ", "БТ". Але ж любімы канал хіба усё ж такі "ОНТ".

**Валянціна, 33 гады:** Так, не так даўно набылі. Я гляджу НТВ і Еўраньюс. Па Еўраньюс праўдзівыя навіны а па НТВ фільмы гляджу.

**Падрыхтавала Таццяна Масюк**

## СТАТЫСТЫКА: ВЫМІРАЕМ СТАБІЛЬНА

Афіцыйная статыстыка сьведчыць, што ад 1994 году насельніцтва Рэспублікі Беларусь штогоду меншае на 50 тысяч чалавек. Напачатку 2005 году ў Беларусі налічвалася 9 мільёнаў 800 тысяч грамадзянаў. На 1 студзеня 2006 году гэтая колькасьць зьменшылася да 9 мільёнаў 750 тысяч. За адзінаццаць месяцаў 2005 году перавышэньне колькасьці памерлых над нованароджанымі склала больш за 47 тысяч чалавек.

Навукоўцы заяўляюць, што для ўзнаўленьня насельніцтва краіны неабходна, каб кожная жанчына мела ня менш як двух дзяцей. Пры каэфіцыенце нараджальнасьці ніжэйшым за 1,6 пачынаецца выраджэньне нацыі. У Беларусі на 2003 год каэфіцыент нараджальнасьці склаў 1,3 дзіцяці на жанчыну. Паводле прагнозу цэнтру навінаў ААН, калі гэткае становішча ня зьменіцца, то да 2050 году жыхароў Беларусі паменшае яшчэ на 3 мільёны чалавек.

*паводле Радыё "Свабода"*

## "Freedom House": Беларусь несвабодная краіна

**Амэрыканская недзяржаўная арганізацыя "Freedom House" распаўсюдзіла штогадовую справаздачу, у якой ацэньваецца стан правоў чалавека ў 192 краінах сьвету і адпаведна гэтыя краіны дзеляцца на "свабодныя", "часткова свабодныя" і "несвабодныя".**

Да апошняй катэгорыі чарговы раз залічаная Беларусь. У сёлетняй справаздачы ацэньваюцца падзеі ў краінах ад 1 сьнежня 2004 году да 30 лістапада 2005 году. 46% усіх гэтых дзяржаваў прызнаныя "свабоднымі", кожная трэцяя часткова свабоднай, а 24% несвабоднымі.

# Беларусь догнала США по стоимости жилья на вторичном рынке

**Бюро Переписи Населения США опубликовало доклад об американском жилище. Как оказалось, в 2005 году 97% жилых домов и квартир имели телефоны и холодильники, 85% - кондиционеры, 82% - встроенные стиральные машины, почти 63% - посудомоечные машины и гаражи, 35% - камины. Примерно в 70% американских домов и квартир насчитывается 3-6 жилых комнат и более двух ванн.**

38% населенных домов и квартир располагаются в городской черте, 37% - в ближних пригородах, еще 12% - в дальних пригородах, а 13% - в сельской местности. Почти в 60% домов и квартир постоянно проживали их владельцы, в 30% - съемщики жилья. Примерно 10% домов и квартир по разным причинам пустовали.

По данным Национальной Ассоциации Риэлтеров, в августе 2006 года средняя цена жилого дома в США составляла 230 тыс долларов. Поскольку общая площадь дома будет не меньше 250-300 квадратных метров, то можно смело утверждать, что стоимость 1 кв.м жилья на вторичном рынке в Минске сравнялась со стоимостью 1 кв.м жилья в США.

*Источник: www.charter97.org*

# ЭГУ абяцае стыпэндыі

**Нягледзячы на шматлікія праблемы, Эўрапейскі гуманітарны ўнівэрсытэт усё ж распачне новы навучальны год. Вільня па ранейшаму застанецца буйным цэнтрам беларускае адукацыі. Гэтым разам ёсьць магчымасьць атрымліваць там і стыпэндыі.**

Апроч авалоданьня дзьвюма эўрапейскімі мовамі; фундамэнтальнай падрыхтоўкі ў галіне гуманітарных і сацыяльных навук; ведаў па беларускай, эўрапейскай і сусьветнай гісторыі, археалёгіі, этналёгіі, культурнай антрапалёгіі, гісторыі мастацтваў, сёлета студэнтам гарантуецца камфортнае бясплатнае пражываньне ў Вільні й стыпэндыі.

Выкладаньне вядзецца пераважна па-беларуску, на старэйшых курсах таксама і па-ангельску, па-француску ці па-нямецку. Апроч гэтага прапануецца адмысловы цікавы курс літоўскае мовы і культуры. Навучаньне ў ЭГУ гэта: атрыманьне дыплёму літоўскага дзяржаўнага ўзору, што прызнаецца ў Эўропе і ўнікальная магчымасьць вучыцца ў «Крывіцкай Мэцы» у Вільні.

**P.S.**

Падрабязную інфармацыю аб умовах паступленьня і навучаньня можна знайсьці на сайце **www.ehu.lt**, задаць канкрэтныя пытаньні на форуме студэнцкага сайта ЭГУ **www.segun.info**

*Вікторыя Салей*

# САМЫЯ БАГАТЫЯ ЛЮДЗІ ЦЭНТРАЛЬНАЙ І ЎСХОДНЯЙ ЕЎРОПЫ

**Нягледзячы на рэвалюцыйныя тэмпы росту беларускай эканомікі і ВВП, згодна з беларускай прапагандай, сярод 100 самых багатых людзей Цэнтральнай і Сярэдняй Еўропы няма ніводнага беларуса.**

Па зьвестках польскага часопісу “Wprost”, які складае свой рэйтынг найбагацейшых людзей Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы, большасьць зь іх маскалі 48 чалавек. Пры гэтым яны ўжо стала 2 гады займаюць першую дзясятку. Другое месца па колькасьці самых багатых людзей, якія ўваходзяць у рэйтынг, займаюць украінцы 15 чалавек. Потым ідуць палякі 14 чалавек, Румыніі 9, Сэрбіі 4, Чэхіі 3, Харватыі 3, Балгарыі -2, Латвіі 2. Усе разам гэтыя сто чалавек маюць капітал 123,2 млрд. далл. ЗША. (у мінулым годзе 71 млрд. $)

Дзясятка найбагацейшых людзей па зьвестках “Wprost”:

Раман Абрамович - 19,5 млрд. далл. ЗША;
Алег Дзерыпаска - 13 млрд. далл. ЗША;
Міхаіл Фрыдман - 12,4 млрд. далл. ЗША;
Аляксей Мардашоў - 12,3 млрд. далл. ЗША;
Вагыт Аляксьпераў - 12 млрд. далл. ЗША;
Ўладзімір Лісін - 12 млрд. далл. ЗША;
Ўладзімір Патанін - 11,5 млрд. далл. ЗША;
Міхаіл Прохараў - 11,5 млрд. далл. ЗША;
Віктар Вэксельберг - 11 млрд. далл. ЗША;
Сулейман Керымаў - 8 млрд. далл. ЗША.

*Падрыхтаваў Алесь Копаць*

# У Беларусі найбольш зарабляюць судзьдзі і юрысты

**Паводле Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Беларусі, сярэднемесячная заработная плата за сёлетнія паўгоду павялічылася ў параўнаньні з адпаведным леташнім пэрыядам амаль на 30 адсоткаў і дасягнула 286 даляраў. А рэальныя заробкі беларусаў за апошні год вырасьлі амаль на 20%.**

Паводле афіцыйнай статыстыкі, у Беларусі сярод бюджэтнікаў найбольш атрымоўваюць супрацоўнікі судовых і юрыдычных установаў у сярэднім 450 даляраў. Гэта ўключна з прыбіральшчыцамі, кіроўцамі, сакратаркамі... Што да заробкаў непасрэдна чыноўнікаў, такая інфармацыя не разгалошваецца. У прамысловасьці атрымоўваюць у сярэднім 307 даляраў у месяц, у будаўніцтве 356. Менш за ўсіх маюць сельскія працаўнікі у сярэднім па 185 даляраў.

Экс-міністар працы эканаміст Аляксандар Сасноў кажа, што сапраўдныя лічбы іншыя:“Значна меншыя, чым заявіла Міністэрства працы. Не 286, а 260 даляраў. Што тычыцца сельскай мясцовасьці, там значна затрымліваюць выплаты заробкаў. Акрамя таго, часьцяком выплачваюць натурай, як кажуць. А што да падвышэньня рэальнай заработнай платы, то яна значна меншая”.

*Крыніца:www.svaboda.org*

# СПАЧУВАННЕ

**Сябры выказваюць шчырыя спачуванні з нагоды смерці маці нашаму сябру і аднадумцу Панасіку Андрэю. Трымайся дружа!**

*Сябры*

# АДНЫМ АБЗАЦАМ

**Крупнейшая фракция Европарламента - "Европейская народная партия - европейские демократы" поддержала выдвижение кандидатуры одного из лидеров белорусской оппозиции Александра Милинкевича на соискание премии имени А.Д.Сахарова за 2006 год.**

*Источник: www.charter97.org*



*Сустрэча А. Мілінкевіча з народам*

# АБ’ЯВА

**Калі вы хочаце атрымліваць штодзённую рассылку навінаў “Свабоды” на ваш мабільны тэлефон, дашліце нам свой нумар тэлефона. Дасылайце смс на нумар 391-22-24.**


МАСТОЎСКАЯ ПРАЎДА
грамадзка-інфармацыйнае выданне Мастоўшчыны
№ 10 (18) 20 верасня 2006 г.
**Заснавальнік: Аляксандр Зарэмбюк.** дэпутат 24 склік. Мастоўскага райсавета.
**Галоўны рэдактар: Ігар Шчэкарэвіч.**
**Верстальшчык: Сяргей Губарэвіч.**
Наклад: 299 асобнікаў.
Адрас рэдакцыі: г. Масты вул. Я.Купалы 1 . Беларусь.
e-mail: **masty.prawda@hotmail.com**
Надрукавана на фінасавыя ахвяраванні жыхароў г. Масты ў друкарні ААТ Бліц-Прынт, г. Кіеў вул. Даўжэнка, 9.
Выходзіць 1 раз на 2 тыдні.
Распаўсюджваецца бясплатна.
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць інфармацыі.